Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 34 (88) Нядзеля, 27-га Верасьня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
Можна паштовымі маркамі.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 20 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 15 гр.
на апош. стар.— 10 гр.

## Наш шлях.

### (1924 21/IX 1925)

21 гэтага верасьня скончыўся год істнаваньня Часовай Беларускай Рады.

Опозыцыя, паўстаўшая, як пратэст беларускага грамадзянства проці двухгадовай дэмагогічнай і надта шкадлівай для беларускага народа працы Беларускага Пасольскага Клюбу, спачатку мела формы *нэгатыўныя*; яна не прызнавала ані комунізуючай ідэолёгіі Пасольскага Клюбу, ані яго рэвалюцыйных мэтадаў. Аднак-жа, у хуткім часе, опозыцыя гэтая прыняла ўжо формы *позытыўныя*; — утварылася Часовая Беларуская Рада, якая, апрача опозыцыі Пасольск. Клюбу, стала на чале ўсяго полёнафільскага напрамку.

Прайшоў год. Цяжкі год. Шмат цяжкіх мамэнтаў прышлося за гэты год перажыць і Час. Бел. Радзе. Аднак-жа, ня гледзячы на надта цяжкія варункі працы, Рада дасканальна вытрымала свой экзамен сьпеласьці. Аўторытэт Рады павялічываецца з кожным днём, расьце даверые да Рады, як з боку інтэлігэнцыі, так і сялянства. Аб павялічэньні аўторытэту Рады і аб пашырэньні яе ўплываў на масы беларускага грамадзянства выразна сьведчаць факты бязупыннага росту ліку сэкрэтарыятаў Рады, якія адзін за другім паўстаюць у розных кутках Наваградчыны і Віленшчыны. Паўстаюць нават самастойна, без усялякай ініцыятывы Рады, як гэта было, напрыклад, у Казлоўшчыне, Слонімскага павету. Усё гэта паказывае, што ідэолёгія Рады — адпаведае настроям беларускага грамадзянства і, што шлях, які выбрала Рада год таму назад, бый правідловы. Гэта ёсьць шлях компромісу, узаемных уступак і згоды народаў польскага і беларускага.

Мы шчыра і праконана прызналі польскую дзяржаўнасьць, але гэтак-жа шчыра і сьмела мы распачалі змаганьне за свае нацыянальныя ідэалы. І праца наша ў гэтым кірунку не прайшла бязсьледна. Там дзе Рада мела найбольш уплываў, там у часе школьнага плебісціту насяленьне складала дэклярацыі за сваю родную беларускую школу. Гэтак Нясьвіскі павет—вясковы цэнтр Рады, пабіў рэкорд, злажыўшы дэклярацыю на 34 белар. школы.

Ідучы шляхам рэальнай працы, Рада ў самым пачатку свайго істнаваньня, зьвярнула увагу на тую масу беспрацоўных вясковых настаўнікаў, якія цяжкай працай здабыўшы сабе адукацыю, не маглі атрымаць адпаведнай пасады, бо ня мелі патрэбнай па закону кваліфікацыі. І вось Рада пачала рэестрацыю гэтых беспрацоўных настаўнікаў, склікала настаўніцкі зьезд і зрабіла пэўныя крокі, каб дабіцца адчыненьня настаўніцкіх беларускіх курсаў. Шэсьць месяцаў ішло змаганьне за гэтыя курсы. Нашыя палітычныя ворагі ўвесь час крычэлі на шпальтах сваіх газэт, што гэтых курсаў ніколі ня будзе, нават называлі нас ашуканцамі беларускага народу. Аднакжа цьвёрдасьць раз узятай палітычнай лініі і правідловасьць выбранага шляху перамаглі ўсе перашкоды і курсы, нарэшце, былі адчынены. 91 беларускі інтэлігэнт будзе мець кавалак хлеба. 91 беларускі настаўнік ізноў зможа аддацца сваей вялікай і карыснай для Бацькаўшчыны працы. У 91 школе беларускія дзеткі будуць мець свайго роднага настаўніка - беларуса. Праўда — цыфра гэтая, паводле ўсей масы беларускага настаўніцтва, невялікая, але цэнтр вагі ня ў лічбе, а ў прэцыдэньце—першым пачатку. Першыя урадовыя беларускія настаўніцкія курсы істнуюць. Першы выпуск кваліфікаваных беларускіх настаўнікаў—будзе.

І мы пэўны, што па гэтым пачатку адчыняцца новыя курсы, будуць новыя выпускі кваліфікаваных беларускіх настаўнікаў і беларуская прасьвета будзе расьці. А з ёю будзе расьці і сьвядомасьць нацыянальная, а разам і удзячнасьць Дзяржаве, якая дае магчымасьці для разьвіцьця нормальнай нацыянальнай працы. З гэтага выплыве натуральнае шчырае прызнаньне гаспадарсьцьвеннасьці польскай самым беларускім народам, а ў гэтым сіла і крэпасьць Дзяржавы.

Прызнаючы за галоўны варунак сваей працы пэўны фундамэнт нацыянальны, Рада ў палітычнай сваей працы ў хуткім часе стала ў опозыцыю, а потым перайшла да адкрытай барацьбы з беларускай палітычнай інстытуцыяй — Бел. Пас. Клюбам. Барацьба гэтая прымала ўсе больш выразныя і вострыя формы, паралельна таму, як Бел. Пас. Клюб ўсе больш выразна прымаў бальшавіцкую афарбоўку, выліўшыся нарэшце ў яскрава бальшавіцкую Сялянска Раб. Грамаду. Будучы сьмяротнымі ворагамі комуністаў, маючы гістарычную прошласьць барацьбы з бальшавікамі, памятаючы і шануючы сьвятую памяць нашых барацьбітоў проці комуністаў, жыцьцё свае аддаўшых у Слуцкім паўстаньні і ў паўстаньнях партызанскіх — мы ні на мінуту не пакідалі гэтай барацьбы. Мы ня толькі вялі і вядзем барацьбу з комуністамі „тут", мы ніколі не забываемся аб нашых братох і бацьках, якія „там" стогнуць пад праклятым бальшавіцкім ігам. Чуючы сябе слабымі перад вялікімі і цяжкімі мэтамі, якія мы сабе накрэсьлілі, мы заўсёды добра разумелі, што нам адным даняць іх будзе надта трудна. Дзеля гэтага мы ўсе высілкі скіровывалі да згоды з польскім народам. Як беларуская народная арганізацыя, мы пакладалі вялікія надзеі на зразуменьне нас народнымі польскімі партыямі — польскай дэмократыяй, якое прывяло-бы да польска-беларускай згоды. Нажаль, згоды, якая мела-б зусім конкрэтныя формы, яшчэ няма. Але усёж-такі за гэты год, дзякуючы упартай працы Рады, адносіны польскага грамадзянства да беларускага пытаньня значна зьмяніліся. Польскае грамадзянства пачало больш цікавіцца беларускімі справамі, прэса польская ўсё больш і больш займаецца гэтым пытаньнем, пачаліся ўжо гутаркі *аб патрэбе перагляду адносінаў да беларусаў*. Усё гэта ёсьць першыя ластаўкі будучай згоды двух братніх народаў. І мы пэўны, што ў новым годзе нашай працы нам удасца знайсьці і конкрэтныя формы для гэтай згоды.

Год працы прайшоў. Па шляху, які мы выбралі год назад, мы шлі цьвёрда, не адхіляючыся ні на крок. Былі няўдачы, але былі і ўдачы. Новы год свайго істнаваньня мы пачынаем з вялікімі надзеямі, поўныя энэргіі і глыбокага праконаньня ў пасьпехе пачатай намі працы.

## Палітычны агляд.

Крытычны мамэнт у эўрапейскай палітыцы акурат здарыўся ў час самага цяжкога экономічнага палажэньня ў некаторых эўрапейскіх дзяржавах, як Англія, Францыя, Нямеччына і Польшча. Французскі прадстаўнік у Лізе Народаў унёс прапазыцыю склікаць міжнародны экономічны конгрэс дзеля урэгуляваньня гандлёвых адносінаў паміж рознымі дзяржавамі. На яго пагляд пакт бясьпекі не апраўдае узложаных на яго надзеяў, калі ня будуць ухілены прычыны міжнародных конфліктаў, з якіх галоўнай зьяўляецца экономічная.

Калі ад экономічнага крызіса церпяць Англія, Францыя і Нямеччына, дык што й казаць аб Польшчы, не пасьпеўшай яшчэ узмацавацца пасьля вайны. Польшча перажывае цяпер такі цяжкі фінансавы крызіс, якога яшчэ не было дагэтуль. Навет сам міністар фінансаў і прэмьер Уладыслаў Грабскі, адзначаўшыся заўсёды сваім оптымізмам, ня бачыць патрэбы далей скрываць, што фінансава-экономічнае палажэньне края надта цяжкое. Гэтым пытаньнем ён займаўся ў сваіх дзьвёх апошніх прамовах, у якіх прадставіў усе нашы фінансавыя і экономічныя недамаганьні. Палажэньне пачало рабіцца горшым ад мінулага году, калі здарыўся сільны неўраджай. Прышлося прывезьці з заграніцы хлеба больш як за 250 міл. злот. Да гэтага яшчэ дайшоў улетку конфлікт з Нямеччынай, адмовіўшайся прыймаць наш вугаль. Гэткім чынам сума ўвозу ўвесь час перавышала суму вывазу і ў першую палову сёлетняга года гэта розьніца перайшла за 500 міл. злот. Гэта адбілася на нашым фінансавым палажэньні. З адплывам чужаземнай валюты і золата за граніцу, значна паменшыўся запас Польскага Банка, які абясьпечываў курс злотага. Дзеля гэтага курс злотага, быўшы ўвесь час роўны швэйцарскаму франку, захістаўся на заграпічнай і на ўнутранай біржы.

Каб спыніць далейшы адплыў чужаземнай валюты за граніцу і гэтак падтрымаць курс злотага, урад быў прымушаны зрабіць цэлы рад рашучых крокаў. Перш за ўсё скарочаны да мінімум увоз заграпічных тавараў. Далей Польскі Банк абмяжаваў крэдыты для іншых банкаў. Дзеля гэтага ўсе банкі апынуліся ў надта трудным па-

лажэньні і ўжо некалькі салідных банкаў збанкрутавала. Гэтага й трэба было спадзявацца, дзеля таго што іх шмат расплодзілася ў часе ўпадку маркі. А цяперашнія варункі з устабілізаваньнем валюты не спрыяюць удачы банкаў, ня гледзячы на тое, што яны бралі вялізныя працэнты за пазыкі, учот вэксалёў і іншыя банкавыя опэрацыі. Ведама, край нічога не страціць, калі лік банкаў паменшыцца прынамсі ў 10 разоў. Але цяпер з банкроцтвам гэтых банкаў пацярпела шмат нявінных ахвяраў, меўшых у іх свае грошы або купляўшых банкавыя акцыі. Апрача таго, пакуль уладзіцца крызіс, край ня мае крэдытаў. Гэта цяжка адбіваецца на ўнутраным гандлю і прамысловасьці, у якіх запанаваў поўны застой. Шмат гандлёвых прадпрыемстваў таксама банкрутуюць. Частка фабрык зачыняецца, а іншыя зьмяншаюць сваю вытворчасьць.

Да апошняга часу прэмьер Грабскі меў надзею на ураджай. Сёлета ураджай запраўды добры, лепшы навет за сярэдні даваенны. Апроч таго, што патрэбна для пасеваў і корму, застаецца яшчэ, паводле заявы міністра земляробства, каля 750.000 тоннаў (тонна = 61 пуд) г. зн. каля 45 міл. пуд. свабоднага хлеба для вывазу. Але сёлета быў таксама незвычайны ураджай і ў С. С. Р. Р., дайшоўшы да 65 міл. тоннаў і там ёсьць свабоднага хлеба для вывазу каля 9 міл. тоннаў. У рэзультаце аказалася, што міжнародны рынак завалены хлебам, пры гэтым цана хлеба за граніцай прыблізна ў 2 разы танейшая за нашу на ўнутраным рынку. І дзеля гэтага прэмьер адмовіўся ад вывазу хлеба за граніцу, раючы лепей выкарыстаць яго дзеля корму жывёлы і вывазіць за граніцу мяса. Але калі ня мае наш хлеб збыту за граніцай дзеля свае даражыні, дык гэткі самы лёс можа спаткаць і мяса, якое будзе даражэйшае за заграніччае.

Гэткім чынам з упадкам надзеі на вываз хлеба, які павінен быў палепшыць наш гандлёвы балянс і фінансавае палажэньне, ізноў зьяўляецца труднае пытаньне аб атрыманьні заграніччай пазыкі, без якой няма выхаду з палажэньня. Нядаўна атрыманыя 10 міл. дал. у Амэрыцы праднязначаны спэцыяльна дзеля інтэрвэнцыі на заграніччай біржы, каб падтрымаць курс злотага. А ўсе стараньні міністра заграніччых справаў Скшынскага і віцэ-дырэктара Польскага Банка Млынарскага ў Амэрыцы атрымаць новую доўгатэрміновую пазыку ня мелі удачы дзеля таго, што іх выезд у Амэрыку быў якраз у часе нашага фінансавага крызіса і хістаньня курса злотага. Таксама ня ўдаўся плян, каб атрымаць пазыку ў Англіі пад залог хлеба, дзеля таго што бальшавікі пасьпелі запрапанаваць ангельцам хлеб па танейшай цане. У канцы канцоў прыходзіцца шукаць ратунку ўнутры края, у саміх сябе.

Апошнім спосабам ратаваць злоты зьяўляецца скарочаньне дзяржаўных расходаў. Бюджэт на 1926 г. прадбачыць 2 мільярды 100 мільёнаў злотых. Прэмьер лічыць ужо патрэбным зьменшыць расходы на 10 прац. А дэпутат Сойма Ян Домбскі ў артыкуле зьмешчаным у „Kur. Por." прапануе скараціць дзяржаўны бюджэт прынамсі на 900 мільён. злотых, лічучы, што дзяржава ня можа вынесьці расходаў больш за 100 мільёнаў у месяц, г. зн. 1200 мільёнаў у год.

*N.*

---

*Той, хто умее чытаць, ніколі не паляну́йся прачытаць няпісьменнаму!*

---

# Праэкт зямельнай рэформы ў Сэнаце.

Сэнат закончыў галасаваньне над ухваленым Соймам законапраэктам аб зямельнай рэформе. З важнейшых зьмен, уведзеных Сэнатам, трэба адзначыць наступныя:

У каждым артыкуле, дзе паводле соймавага праэкта мела пастанаўляць міністэрства зямельных рэформаў, згодна з папраўкамі Сэнату, пастанаўляе Рада Міністраў.

Сэнат павялічыў maximum зямлі, непадлягаючай парцэляцыі, для крэсаў з 300 да 400 гэкт.

Значна павялічаны таксама абшар грунтаў, маючых быць выключанымі з пад парцэляцыі дзеля прамысловых мэтаў.

Далей, калі соймавая пастанова прадбачыць, што кажды год падлягае парцэляцыі 200,000 г., астача-ж, нераспарцэляваная ў адзін год далучаецца да контынгэнту 200,000 г. наступнага году, дык Сэнат увёў зьмену, што астача з нераспарцэляванага ў адным годзе контынгэнта не далічаецца да 200,000 г. наступнага году. Карацей — робіцца зьменшаньне контынгэнта.

У арт. 19 законапраэкта ўведзена зьмена, што прымусовая парцэляцыя адкладаецца на год, ці, што мае яна ўвайсьці ў жыцьцё толькі ў 1927 годзе.

Сойм пастанавіў, што ацэнка двароў (majątków), падлягаючых прымусовай парцэляцыі павінна адбывацца паводле каштоўнасьці іх паказаный пры аплаце маёнткавага падатку. Сэнат папраўіў адносны артыкул так, што ацэна паводле нормы маёнткавага падатку падлягае толькі зямля; будынкі-ж, інвэнтар, мэлёрацыі і г. д. будуць ацэніваццa паводле запраўднай вартасьці.

Паводле Сойму, скарб дзяржавы меў плаціць адшкадаваньні за распарцэляваныя двары, гэтак званымі, земскімі лістамі, але мог таксама плаціць палову лістамі, а палову гатоўкай. Сэнат-жа апрацаваў спэцыяльную табэльку, паводле якой Урад павінен плаціць пэўны працэнт адшкадаваньня гатоўкай. Працэнт гэты хістаецца да 50 да 20 прац., адносна да распарцэляванага абшару.

---

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

29 г. м. пачнуць працаваць соймавыя камісіі. На гэты дзень назначаны паседжаньня фінансавай, вайсковай і асьветнай камісій. У сераду 30 г. м. адбудзецца паседжаньне юрыдычнай камісіі, якая будзе абгаварываць праэкт увядзеньня на крэсах суда прысяжных. У пятніцу 1 кастрычніка зьбярэцца бюджэтная камісія.

У палітычных колах Варшавы абгаварываецца справа ўваходу Польшчы ў Раду Лігі Народаў. Справа ў тым, што Швэцыя павінна звольніць адзін з шасьцёх г. зв. пераменных мандатаў і магчыма, што яго атрымае Польшча. Можна лічыць, што кандыдатуру Польшчы падтрымаюць Балтыцкія дзяржавы, Малая Антанта, Францыя, Канада і Бразылія. У зьвязку з гэтым пытаньнем міністар Скшынскі выяжджае у Жэневу.

20 г. верасьня раніцай у Сьвента-Кшыжскай турме, якая знаходзіцца недалёка ад Кельцаў, пачаўся бунт. Угалоўныя арыштанты, разбройўшы двух вартаўнікоў, кінуліся у канцэлярыю турмы, дзе захапілі 20 вінтовак і патроны. Арыштанты перарвалі тэлефонныя правады і хацелі ўцячы. Але турэмная варта пачала іх абстрэліваць. У рэзультаце шэсьць арыштантаў была забіта і некалькі вартаўнікоў ранена. Праз 2 гадзіны на падмогу турэмнай варце прыбыў атрад паліцыянтаў, якому скора удалося супакоіць узбунтаваўшыхся арыштантаў.

Гэтымі днямі ў Варшаве адбыўся ўрачысты акт абвяшчэньня аўтокефаліі праваслаўнай царквы ў Польшчы. У зьвязку з гэтай ўра-

---

**ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.**

# ДРЫГВА

**драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.**

(*Глядзі „Грам. Гол." № 87*).

**Кэльнэр** (*зьбірае грошы*).

**Гаспадыня** (*пабачыўшы Маньку*). А гэта-ж хто? Фаб'ян! хто гэта? чаго яна?.. (*пазнаўшы*). А! гэта-ж Манька! А ты-ж адкуль? Жыва?

**Манька.** Я ўжо выпісалася з бальніцы. Ня маю куды падзецца... Прыйшла да вас, панічка!

**Гаспадыня.** Не, каток! У мяне цяпер ужо ня тое! Думаеш, што ў мяне ізноў будзеш разводзіць свае любоўныя шурымуры? Не! у мяне цяпер кэльнэр служыць. Менш клопату, а больш парадку... І да чаго-ж ты падобна! Страхацьцё. Гасьцей напалохаеш, як я цябе вазьму на службу. У мяне не багадзельня, каточак!

**Манька** (*апусьціўшы галаву ідзе да дзьвярэй*).

**Гаспадыня.** Ну, чакай! куды-ж ты цяпер ідзеш? Куды-ж ты падзенешся?

**Манька.** Я сама ня ведаю... Сястра выехала, нікагусенька у мяне няма.

**Гаспадыня.** Ах, бяда з табой! Што мне з табой рабіць? Ну, ідзі ў кухню, будзеш памагаць мыць судзьдзё...

**Манька** (*ідзе у кухню пацалаваўшы гаспадыню у руку*). Дзякую...

**Гаспадыня.** Ну, ідзі, ідзі! Ах, бяда з вамі і годзі! (*Да Галубоўскага*). А з табой я ужо больш ня буду цэрамоніцца! Надаеў ты ужо мне! Замест сядзець тут ціха і дзякаваць, што я пазволіла тут начаваць, ды даю яшчэ міску стравы, напіваецца як шавец і пачынае тут раўсьці... Ідзі з маіх вачэй, не магу глядзець на цябе, фу! гадасьць ты гэтакая! Фу! (*выходзіць*).

**Галубоўскі.** На мароз, на вуліцу... як сабаку. Божа мой! за што усё гэта, за што?!.. (*апускаецца бяз сіл на крэсла, увайходзіць Тадорка*).

**Тадорка.** Ну, давай гармонію! Вось маеш рубель, так як умовіліся! (*Дае грошы*).

**Галубоўскі.** Гармонію ня дам. Пасьля сьмерці, як памру, тады возьмеш.

**Тадорка.** Як «ня дам»? семдзесят капеяк я ужо табе даў, яшчэ належыцца рубель,— вось маеш!

**Галубоўскі.** Гармонію ня дам... пасьля сьмерці...

**Тадорка.** Ну, гдзе я цябе буду шукаць пасьля сьмерці! Усё роўна хутка памрэш! Вось бяры грошы і давай!

**Галубоўскі.** Ня трэба грошы, а гармоніка ня дам.

**Тадорка.** Ах, ты, круцель гэтакі! Дык аддавай мне назад задатак: семдзесят пяць капеяк.

**Галубоўскі.** Грошы ня маю, а гармонік пасьля сьмерці...

**Тадорка.** А! я ведаю, хітры гад ты гэтакі! Узяў ты у мяне задатак, хочаш прадаць каму іншаму! Давай гармонік!... (*тузаюцца*).

**Галубоўскі.** Ня дам! Ня дам!

**Гаспадыня і Кэльнэр** (*на гэты шум убягаюць; Кэльнэр выкідае Тадорку за дзьверы*).

**Гаспадыня.** Што гэта? Вось ізноў бяда! Божа мой, ізноў Галубоўскі скандаліць! Зьвязаўся біцца з Тадоркай! Ну, але даўжэй гэтак цярпець ня буду! Вон! зараджа вон! Разам са сваім гармонікам!

**Кэльнэр** (*выпхае Галубоўскага за дзьверы*).

**Гаспадыня** (*да Кэльнэра*). А ты, Фаб'ян, ня бачыш, што тут робіцца? Я толькі на момант выйшла у кухню і зараз-жа авантура!

**Кэльнэр.** Я, панічка, абслужываў гасьцей, і ня бачыў. Не магу-ж на ўсе бакі разарвацца!

**Гаспадыня.** Эх, усе вы добрыя! Нічога нельга спусьціць з вачэй!.. А гдзе падзелася паўбутэлькі лікёру, што засталося з вялікага століка?

**Кэльнэр.** Пані забылася! Госьць заплаціў за цэлую бутэльку і ўсё выпіў.

**Гаспадыня.** Эй, эй, Фаб'ян! Я ведаю, які гэта госьць выпіў! (*выходзіць*).

**Кэльнэр** (*адзін*). А гадзіна баба! Усё бачыць шэльма, каб яна скісла! (*выходзіць*).

**Галубоўскі** (*увайходзіць з гармонікам, трывожна аглядаецца і сядае*). Мароз!.. Куды падзенуся? Няма навет дзе пераначаваць... А гэты прыстаў, каб аддаць гармонік. Ня дам гармонік! Пасьля сьмерці — няхай! Скажу, каб аддалі, а рубель на імшу! Божа мой! Грахі, ох, грахі! Пьяніцай быў, да споведзі не хадзіў, о! Божа мой! Айчэ наш, ктуры ест, свеньць імя твоя, бонць воля твоя...

чыстасьцю ў Варшаву прыежджалі спэцыяльныя дэлегацыі ад Канстантынопальскага і Румынскага патрыархаў.

### За граніцай.

З **Коўна** паведамляюць аб тым, што кабінэт Петруліса падаўся ў адстаўку, якая ўжо прынята прэзыдэнтам. Адстаўка кабінэту выклікана тым, што літоўская дэлегацыя, у часе польска-літоўскіх перагавораў у Копэнгагэне, перавысіла свае паўнамоцтвы. Згодна апошніх вестак з Коўна, ўтварыўся ўжо новы кабінэт на чале якога стаў прадседацель Сойму Бістрас.

У **Сірыі** палажэньне французаў значна палравілася. Французскае войска акружыла друзаў з трох бакоў, а з чацьвёртага наступаюць англійцы з Заіорданьня. Падрыхтоўваецца гэнаральнае наступленьне проці паўстанцаў.

У **Албаніі** кабінэт міністраў падаўся ў адстаўку. Ідуць перагаворы аб утварэньні новага кабінэту з удзелам прадстаўнікоў усіх партыяў.

З **Парыжу** паведамляюць, што конфэрэнцыя аб дагаворы бясьпекі адбудзецца 5 кастрычніка г. г. у Люцэрне. У конфэрэнцыі прымуць вучасьце Польшча і Чэхія, а таксама і Нямеччына.

У **Турцыі** адчуваецца вялікае незадаваленьне з прычыны таго, што Ліга Народаў ня вырашыла Мосульскага пытаньня. Турэцкая прэса заяўляе, што Турцыя ўласнымі сіламі даб'ецца выпаўненьня сваіх дамаганьняў. Ня выключана магчымасьць вайны з Англіяй. У зьвязку з гэтым рэзэрвісты турэцкай арміі прызваны на службу. Па апошнім весткам чатыры турэцкія дывізіі сконцэнтраваны на граніцы Іракa.

У **Мароко**, паводле французскага комунікату, палажэньне не зьмянілася. Французскія войскі прадаўжаюць узмацняцца на занятых пазыцыях.

У **Токіо** пажарам зьніштожаны будынкі парляманту і сэнату. Згінула шмат надта каштоўных дакумэнтаў.

У **Рыме** ў апошнія дні паліцыя зрабіла сярод комуністаў 239 вобыскаў і арыштавала 158 асобаў, у якіх знойдзена шмат комуністычнай літэратуры і аружжа.

З **Багдаду** атрымана вестка аб тым, што турэцкая ўлада прадаўжае выселяць хрысьціян з Мосульскай тэрыторыі. Да гэтага часу выселена ўжо каля 8 000 хрысьціян.

---

# У С.С.Р.Р.

### Колькі комуністаў у С. С. Р. Р.

Ня гледзячы на ўсе прывілеі, якімі карыстаюцца сябры комуністычнай партыі ў Саўдэпіі; ня гледзячы на ўселякія ленінскія і іншыя прызывы, лік сябраў гэтае пануючае партыі ня толькі не павялічваецца а нават паменшаецца. Ужо даўно чыталі мы ў савецкай прэсе аб тым, што колькасьць комуністаў у Расіі падыходзіць да мільёну.

А цяпер аказываецца, што іх ня больш за 800.000.

Статыстычны аддзел „Рыкапы" (расійскае комуністычнае партыі) падаў да агульнага ведама паўгадовую справаздачу, з якое вынікае, што на дзень 1 верасьня б. г. партыя лічыла 401.481 запраўдных сяброў і 339.639 кандыдатаў, разам 741.117 комуністаў. Да гэтай лічбы трэба дадаць 56.000 комуністаў, працуючых за граніцай, у пасольствах ды іншых савецкіх прадстаўніцтвах. Разам атрымліваецца лічба каля 800.000 асоб. Каля трох чацьвертых з гэтае лічбы належыць да комуністычных арганізацыяў Р. С. Ф. С. Р. Чацьвертая частка да іншых савецкіх рэспублік. 62% сяброў партыі жыве ў гарадох; 36% на вёсцы. Агулам выпадае 103 комуністы на 10.000 жыхарства.

Гэтая справаздача зусім выразна гаворыць аб тым, якой „популярнасьцю" карыстаецца гэтая партыя бандытаў нават у сваёй комуністычнай дзяржаве.

### Расійскі тэатр у Менску.

Менская газэта „Młot" у № 206 ад 12 г. м. падае вестку аб тым, што на зімовы сэзон у Менск прыежджае *расійская* драматычная трупа, якая будзе ставіць спэктаклі ў *беларускім* дзяржаўным тэатры. Разам з гэтым савецкія газэты паведамляюць аб тым, што ў гэтым годзе беларускі тэатр ня будзе ўжо больш атрымліваць дзяржаўнай субсыдыі.

Відаць беларускі тэатр бальшавікам больш не патрэбны. Яны заўсёды застаюцца вернымі сабе: сягоньня заігрываюць з беларусамі, бо так трэба для паказу, а заўтра тых-жа самых беларусаў паставяць да.. сьценкі.

### Пролетарская культура.

Аб тым, як зьдзічэлі нравы ў вёсках і гарадох знаходзячыхся пад савецкай уладай, найлепей сьведчыць сама бальшавіцкая прэса. Вось жменя фактаў узятых з № 210 бальшавіцкай газэты „Звезда" ад 13 г. м.

У вёсцы Словень, Капыскага раёну, у дзень храмавога сьвята, пачалася бойка паміж сялянамі, якая закончылася толькі а 12 гадз. уначы. Білі вокны у хатах, твары і скулы. У наступным дню бойка пачалася ізноў і цягнулася, пакуль не умяшалася міліцыя.

У Омельні, Кнорынской воласьці ў доме б. лесьнічаства ідзе самае дзікае расхішчэньне: вымаюць з вакон шыбы, выдзіраюць рамы, замкі з дзьвярэй, забіраюць нават самыя дзьверы. Усе дрэвы і платы паламаны і г. д.

У Воршы ёсьць „Дом Селяніна". У гэтым доме на сталох для яды сьпяць сяляне, раніцай сталы ня прыбіраюцца. Падлогі брудныя. На сьценах клапы.

У м. Бобры зусім зруйнованы будынак клюбу комсамольцаў і рэмонту ніхто ня робіць.

Запраўды — „пролетарская" культура".

### Паўстанчы рух.

Уначы з 19 на 20 г. м. з Ігумену быў высланы атрад Г. П. У. для барацьбы з паўстанцамі. Партызаны, даведаўшыся аб гэтым, зрабілі засаду ў лесе каля Завішына і, калі атрад падыйшоў да лесу, засыпалі яго градам куль. Пасьля нядоўгага спраціўленьня чэкісты злажылі аружжа. Партызаны адабралі комуністаў і павесілі іх на дрэвах пры дарозе.

# Сабачы звычай.

(*З баек Крылова*).

Праз вёску раз прыяцелі два шлі
І гутарку паважную вялі.
Раптам тут з пад падваротні
Сабака кінуўся на іх.
За ім другі, там болей. І ў міг —
З усіх двароў сабак зьляцелася з паўсотні.
Кідаюцца і рвуць,
Зусім праходу не даюць.
Адзін з прыяцеляў — кія шукаць пачаў.
«Пакінь». Другі яго ўстрымаў.
«Кіём сабак ты ня уймеш,
А толькі болей раззлуеш.
Спакойна пойдзем і на зьвягу
Зусім зьвяртаць ня будзем мы увагу.
Яны йшчэ крыху пазлуюцца,
Пабрэшуць ды й разьбягуцца».
І праўда: чым далей —
Брахня ставалася цішэй;
Па аднаму сабакі заціхалі
І наканец — зусім адсталі.

——

Людзкая злосьць такі-жа звычай мае,
Усе незнаёмае ды значнае—брахнёй варожай спатыкае.
Калі аднак на брахуноў увагі не зьвяртаць
— Перастаюць брахаць.

**Б. Друцкі.**

---

Для падаўленьня сялянскага паўстаньня ў ваколіцах Воршы аднаму палку пяхоты быў дадзены прыказ выступіць у Смаленск. Калі чырвонаармейцы даведаліся аб тым, што іх пасылаюць на барацьбу з паўстанцамі, дык адмовіліся ад выступленьня і зрабілі мітынг, на якім гаварыліся антысавецкія прамовы. Прыбыўшага ў казармы паліткома *Гольдмана* чырвонаармейцы забілі. Быў вызван атрад Г. П. У. які і разброіў узбунтаваўшыхся чырвонаармейцаў.

### Пажары ня спыняюцца.

Комуністычная ўлада вельмі ўстрывожана хваляй пажараў, якія ў апошні час ахапілі ўсю Беларусь.

---

**Манька** (*уваходзіць*). Што з вамі, пане Галубоўскі? Вы хворы?

**Галубоўскі.** Не, нічога — толькі ў горле душыць, трасе, мусі празяб... (*кашляе*).

**Манька.** Я вас аб акрыю (*акрывае яго сваей падранай хусткай*).

**Галубоўскі.** Якая вы, панна Маня, якая вы... (*хапае яе за руку і хоча пацалаваць*).

**Манька.** Не, ня трэба, не!.. Што гэта? Вы плачаце пане Галубоўскі?

**Галубоўскі.** Не, (*праз сьлёзы*) не... я... гэта так толькі...

**Манька.** Ня плачце, пане Галубоўскі! Вось я калісь таксама плакала... Цяпер, як усе сьлёзы выплакала, пабачыла, што й запраўды дурная была.

**Галубоўскі.** Я быў сягоньня... у жонкі... Нічога не хацеў, прасіў толькі, каб толькі пазволіла начаваць у кухні ля печкі, я-бы за тое ваду насіў, дроў-бы насек, а яна да мяне: «вон, стары пьяніца!» а кахан яе выскачыў і з ганку скінуў... Цяпер гаспадыня выгнала... Куды я падзенуся? Ох, каб хутчэй сьмерць прыйшла!

**Манька.** Сьмерць ніколі не прыходзе тады, калі яе клічаш...

**Галубоўскі.** Да мяне ужо ідзе... я ведаю... ужо нядоўга... як я памру, вы, Маня, гармонік аддайце шаўцу Тадору, што напрацiў, — ён вам дасьць рубель. Любіць хлопец граць на гармоніку, а ў яго ўжо стары, нічога ня варты, басы хрыпяць... Дык аддайце Тадору, а рубель дайце на імшу...

**Манька.** Што вам баліць, пане Галубоўскі? Можа вам памагчы — вы зусім, як бачу, хворы...

**Галубоўскі.** Нічога не баліць... Нічога не баліць... Толькі слаба, і душыць, і трасе і сена гэтае душыць... Ох, зьнімеце гэтае сена...

**Манька.** Якое сена? Тут няма ніякага сена! Не раскрывайцеся, калі вам сьцюдзена. Вось так абкрыйцеся...

**Галубоўскі** (*няпрытомна*). Сена душыць — у вачох сена... усюды сена... поўная хата сена... і скача, усё скача, сена скача.

**Манька.** Гэта вам так толькі здаецца... Сядзеце ціха!

**Галубоўскі.** Не магу, трэба ісьці — гаспадыня выгнала — будзе гневацца...

**Манька.** Дык сядзеце... Мала што гаспадыня казала, яна так, толькі, ў злосьці, пасьля адпусьціцца...

**Галубоўскі.** Божа мой! мароз... а сена ў вочы лезе... Семдзесят капеяк ужо узяў, дык гармонік трэба аддаць, бо скажа, што круцель...

**Манька.** Добра, добра, аддам... Але скажэце мне, я хацела спытацца... Ці... як мяне не было... Міхась... пан Міхал... вы ведаеце хто? — ня прыходзіў? нічога не пытаўся?

**Галубоўскі.** Не, куды яму прыходзіць! Ен пан, ён чысты, багаты, чаго яму да нас... Пан ідзе заўсёды сваей дарогай, а бедны сваей дарогай. Ох, Божа!.. Дарога! Зімовая дарога... Ох, сьцюдзена!

**Манька** (*абкрывае яго ізноў*): Дык вы не раскрывайцеся, будзе цяплей.

**Галубоўскі.** Якая вы добрая, Маня!..

**Манька.** Не, я ня добрая, я злая. Я хачу помсты, ох, помсты! О подлы гад! Шмат абецаў, а кінуў, кінуў без літасьці, кінуў, не даведаўшыся навет, што са мной, ці я жыва. Пайшоў сваей дарогай! Хэ-хэ! О подлы, подлы паніч!

**Галубоўскі** (*зусім аслабеўшы валіцца на падлогу*).

**Манька.** О Божа мой! пане Галубоўскі! Што з вамі?!

**Галубоўскі** (*непрытомна*). Ох... сена... душыць... ко-о-лець...

**Манька.** Што з ім? (*кліча*). Пані гаспадыня! Пані гаспадыня! хутчэй сюды.

Убегаюць: **Гаспадыня** і **Кэльнэр**. Іншыя **госьці** з цікавасьцю глядзяць з другога пакою. Музыка за сцэнай спыняецца.

**Гаспадыня.** Што гэта? Памёр?! Вось яшчэ новая бяда!

**Кэльнэр.** Не, яшчэ дыхае.

**Гаспадыня.** Ня мог ён сабе паміраць у іншым месцы, а прылез сюды!.. О, бедная мая галованька!.. (*да Кэльнэра*). Фаб'ян! бягі хутчэй да тэлефону! пакліч скорую помач!

**Манька** (*у часе гэтай суматохі трымае ў руках гармонік*).

**Тадорка** (*убягае*). Што? ужо памёр? А гармонік? (*да Манькі*). Давай гармонік!

**Манька.** Ен казаў, што рубель на імшу...

**Тадорка** (*вырываючы з яе рук гармонік*). Я табе дам рубель!.. На сьвятое «ніколі» (*выбягае*).

ЗАСЛОНА.

КАНЕЦ.

Газэта „Звезда“ ад 12 г. м. № 209 піша аб тым, што ў м. Дуброўна кожны год бывае шмат пажараў. Прычына — падпалы. У мінулым годзе толькі ў адным гэтым мястэчку было больш за 70 (!) пажараў. Дуброўская пажарніцкая каманда ўвесь час знаходзіцца ў баявой (?) гатовасьці.

Тая-ж самая „Звезда“ у № 211 піша, што у в. Любанаўцы, Чэрыкаўскага раёну ўначы на 5 г. м. згарэлі школа, хата чытальня, сельсавет і коопэратыў. Прычына — таксама падпал.

### Абакралі камісараў.

У Менску навядомыя спраўцы абакралі кватэры вядомых комуністаў: Пэтэрса — заступніка Дзержынскага, агэнта Г. П. У. *Якабсона* і прадседацеля трыбунала. Выкрадзены вельмі важныя палітычныя дакумэнты. Адначасна з гэтай кражай прапаў бяз весьці сябра Комінтэрну Якаўлеўскі.

### Раздаюць беларускую зямельку.

Як піша газэта „Звезда“ у № 209, яшчэ ў мінулым годзе быў арганізаваны камітэт па надзяленьню зямлёю жыдоў, гэтак званы Комзем. За год свайго істнаваньня гэты Комзем зрабіў вялікую (?) працу. Ен раздаў каля *ста тысячаў дзесяцін* зямлі на Украіне, Беларусі і ў Крыму — жыдоўскім колёністам. Але гэта, піша „Звезда“, яшчэ толькі пачатак. Праграма Комзема прадбачыць надзяленьне зямлёю яшчэ каля 500—600 тысячаў жыдоў.

Вось каго комуністы надзеляюць лепшаю зямлёю. А беларускі селянін, які мае ўсе правы на гэтую зямлю, можа . . . і пачакаць.

### Ня хочуць „пролетарскай“ асьветы.

Корэспандэнт газэты „Звезда“ у № 211 жаліцца на тое, што ў вёсцы Хатэйсіна, Заслаўскага раёну, ужо тры гады робіцца рэмонт школы і ніяк ня можа быць скончаны, бо сяляне ня даюць нават саломы, каб пакрыць будынак. А ў гэты самы час надта добра праходзіць збор грошаў на рэмонт царквы.

Відаць сялянам вера бацькоў даражэй за бальшавіцкую „політпрасьвету“.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Колькі жаўнераў на сьвеце.

Статыстычнае бюро Лігі Народаў абвесьціла цыфры, датычачыя стану арміі ў паасобных эўрапейскіх дзяржавах, паводле якіх найсільнейшую армію ў Эўропе мае Францыя, трымаючая пад аружжам 760,500 жаўнераў і афіцэраў; другое мейсца займае С.С.С.Р.—698,500; Англія—593,000; чацьвертае мейсца Польшча—294,000; Гішпанія—272,000; Румынія—193,000; Італія— 178,500; Югаславія — 152,000; Чэхаславакія — 150; Бэльгія—119,000; Нямеччына — 100,000; у іншых дзяржавах разам 277,000.

Гэткім чынам арміі эўрапейскіх дзяржаваў разам узятыя маюць 3,797,500 жаўнераў і афіцэраў на 405 мільёнаў жыхарства.

### Пажар нафтовых крыніцаў.

Паводле астатніх ведамасьцяў з Бухарэсту пажар нафтовых крыніцаў тав.: „Romania Americana“ не пагашаны, ня гледзячы на тое, што трывае ўжо каля 2 месяцаў. Вагонь, які відаць за некалькі сот кілёмэтраў навакол, усьцяж павялічваецца, бо з зямлі выплываюць новыя вялізныя колькасьці нафты і газаў.

### Найменшая рэспубліка.

Міньятурная рэспубліка Сан-Марыно лічылася да гэтага часу найменшай у сьвеце. Аднак аказалася, што істнуе ў Эўропе яшчэ меншая дзяржава — астравок Ваволяра на Сяродземным моры, які знаходзіцца ў 12 кілём. ад Сардыніі. Даўжыня гэтага астраўка — ўсяго 2 кілёмэтры. Незалежнасьць здабыла Ваволяра у 1836 г., калі сталася ўласнасьцю дому Бартолёні. Да 1882 г. панаваў там Павал I, як кароль, а пасьля яго сьмерці жыхары абвесьцілі рэспубліку.

### Арыштанты „на дачах“.

Англійскія газэты падаюць цікавую вестку аб тым, што ў гэтым годзе 43 арыштанты правялі лета на востраве Уайт. Жылі яны ў готэлях і маглі ўвесь дзень карыстацца сонцам і морам. Усе арыштанты карысталіся поўнай свабодай. Большасьць — цяжкія праступнікі, прыгавораныя ў турму на шмат гадоў. Англійскі ўрад спадзяецца, што гэтага адносіны да арыштантаў прывядуць іх да маральнага аздараўленьня.

### Законапроэкт проці многажонства ў Турцыі.

Турэцкі Урад апрацаваў і унёс у парлямант законапроэкт аб забароне многажонства.

## Беларусы у Латвіі.

### Цяжка беларусам папасьці ў Латвійскі Унівэрсытэт.

Латвійскія шовіністычныя групы дужа часта рабілі беларусам закіды, што беларуская моладзь, пасьля сканчаньня гімназій у Латвіі, едзе дабываць вышэйшую асьвету ў зарубежныя унівэрсытэты, найчасьцей у Пражскі чэскі унівэрсытэт.

Довады аб тым, што беларусам лягчэй навучыцца славянскай чэскай мове, якую беларусы пачынаюць разумець, прыслухаўшыся да мовы, ўжо праз некалькі дзён пасьля прыезду ў Чэхію, чым навучыцца чужой мове латыскай, якую яны вучаць цэлымі гадамі і ўсё-ж-ткі ведаюць блага, — гэтыя довады лічыліся толькі адгаворкамі.

У гэтым годзе трое матурыстаў Люцынскае беларускае гімназіі, скончыўшы лепш за іншых і мацней ведаўшы латыскую мову, надумалі паспрабаваць папасьці ў Латвійскі Унівэрсытэт. Лятуцела аб гэтым і рэшта матурыстаў, але не адважылася трымаць экзамену з латыскае мовы, бо ведала на сколькі гэта цяжка для беларусаў, чуючых латыскую мову ў сябе толькі ў клясе.

Падалі трое хлапцоў просьбы. Заплацілі па 300 рублёў за права экзаменавацца і прыехалі трымаць экзамен.

Ну і, зразумела, ўсе трое праваліліся.

Вось табе і унівэрсытэт!

Ехаць у Прагу ўжо познавата.

А вучыцца хочацца. Ды і патрэбна вучыцца, бо зямелькі няма.

Есьць ў Латвіі унівэрсытэт, але мусіць яшчэ ня хутка ўбачым мы ў ім беларускіх студэнтаў.

### Люцынская беларуская гімназія.

Цытаньне аб Люцынскай беларускай гімназіі ўсё яшчэ вісіць у паветры.

Абецалі даць субсыдыю прыватнай гімназіі, якую адчыніла ўжо у Люцыне Т-ва „Беларуская Хата“ аднак субсыдыі не даюць.

Мала таго, не даюць афіцыяльнае згоды і на зацьвярджэньне гэтае гімназіі.

Ідзе нейкая ўмысловая валакіта, каб зацянуць справу.

(„*Голас Беларуса*“).

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Спрашчэньне вучыцельскіх экзаменаў.** Міністэрства Асьветы прыслала да Віленскага Кураторыюму цыркуляр у справе спрашчэньня дзяржаўных экзаменаў на вучыцеля сярэдніх школаў і вучыцельскіх сэмінарыяў. Да экзаменаў будуць дапушчаны, між іншым, асобы, якія да 1-I 23 г. былі вучыцелямі ў памянёных вышэй школах, пад тымі аднакжа варункамі, што яны 1) зьяўляюцца польскімі грамадзянамі, 2) скончылі сярэднюю школу ці вучыцельскую сэмінарыю, 3) мелі к 1-I-23 г. 25 гадоў, ці да гэтага тэрміну мелі ўжо 3 гады пэдагогічнай практыкі.

= **Выкладаньне ў пачатковых двумоўных школах.** Міністэрства Асьветы выдала распараджэньне аб парадку выкладаньня навук у пачатковых двумоўных, ці г. зв. утраквістычных школах. Паводле гэтага распараджэньня, выкладаньне Закону Божага павінна рабіцца на роднай мове вучня. Пры навучаньні рахунку і гэомэтрыі, выкладаньне якіх у ніжэйшых аддзелах дапускаецца ў роднай мове (беларускай), вучыцель павінен адначасова карыстацца і польскай тэрміналёгіяй. У іншых прадметах важнейшыя навуковыя тэрміны таксама трэба падаваць у двух мовах.

= **Павялічэньне платы за памешканьні.** Ад кастрычніка г. г. падвышаецца плата за памешканьні: 1) за кватэру з аднаго пакою і кухні прыдзецца плаціць 37 прац. аплаты даваеннай, г. ё. той якая плацілася у чэрвені 1914 года; 2) за 2—3 пакоі — 42 прац.; 3) за 4—6 пакояў — 47 прац. Падвышаецца таксама і аплата за памешканьні, якія аддаюцца пад крамы, склады і фабрычныя будынкі.

= **Арыштаваньне выдатнага комуніста.** Гэтымі днямі ў Вільні паліцыя арыштавала сябра Ураду Цэнтральнага Камітэту комуністычнай партыі Заходняй Беларусі, які меў пры сабе тры пашпарты на розныя прозьвішчы. Запраўднае сваё прозьвішча арыштаваны назваць адмовіўся. У арыштаванага знойдзены вельмі важныя дакумэнты. Комуніст гэты прыехаў з Бэндзіну з вельмі важнымі даручэньнямі.

= **Аб перарахаваньні ўкладаў.** У апошнім нумары „Dzien. Ust.“ апублікаваны закон аб перарахаваньні ўкладаў у Польскую Ашчадную Касу. Уклады, ўнесеныя ў Р. К. О. маркамі і да гэтага часу ня выбраныя, будуць перарахаваны на 20 прац. іх залатой вартасьці; калі-ж гэтыя ўклады находзяць з пераводаў чужых валютаў, дык будуць перарахаваны на 80 прац. іх залатой вартасьці.

= **Арыштаваньне агітатараў.** У начы на 18 верасьня у Н.-Вілейцы, на Полацкай вул., палітычная паліцыя арыштавала комуністычных агітатараў Бэкера і Вольфа ў той час, як яны раскідалі пракламацыі. Пры іх знойдзены чырвоны сьцяг і шмат агітацыйных адозваў.

= **Лік беспрацоўных у Вільні.** На 23 г. верасьня у Вільні налічвалася 1943 беспрацоўных, у тым ліку 1307 мужчынаў і 636 кабет.

= **Аб картах пабыту.** Асобы, якія маюць карты пабыту, абавязаны за 14 дзён да канца тэрміну, на які гэтыя карты былі выданы, падаць камісару ўраду прашэньне аб адрочку гэтага тэрміну, ці аб выдачы новай карты пабыту.

= **Выезд Старшыні Рады.** Старшыня Часовай Бел. Рады, п. Паўлюкевіч, па вызаву Сакрэтарыята, 25 г. м. выехаў у Нясьвіж для аканчальнага вырашэньня справы адкрыцьця у Нясьвіжы беларускай гімназіі.

= **Чытальня пры Час. Бел. Радзе.** Пачынаючы ад 26 г. м. чытальня будзе адчынена штодня ад 1 да 6 гадзіны.

## ЖАРТЫ.

### Сватаньне.

— Дык вы кажаце, што ўзялі-б маю дачку без уселякага пасагу?

— Так, пане дабрадзею! Запэўняю вас — ні капейкі пасагу мне ня трэба.

— Ну, то выбачайце, саколік, але дачкі я за вас не аддам.

— Чаму-ж гэта так, дазвольце запытацца?

— А таму, што не хачу мець дурнога зяця!

### Скрытны.

Сустракаюцца двое сялян, якія едуць з возамі.

— Здароў, куме!

— Добрага здароўя!

— Куды-ж гэта едзеце?

— У места.

— На кірмаш?

— Так, куме!

— А што вязіце?

— Тпру! — Кум злазіць з возу, падходзіць да прыяцеля і ціханька, на вуха, кажа:

— Авёс, куме!

— Дык, чаго-ж так крыецеся, — дзівуецца той.

— Ды, каб часам кабыла мая не пачула.

### Не дзяцём, дык унукам.

Стары, аднаго разу, кажа сваёй жонцы.

— А ведаеш, старая, скора нам ужо паміраць прыйдзе пара. Трэба падумаць, што пасьля нашае сьмерці станецца з нашым дабром? Каму мы яго пакажам?

— Каму? Вядома нашым дзецям!

— Але-ж найгоршая справа, што у нас няма дзяцей і здаецца ўжо ня будзе. Што тады?

— Вось яшчэ знайшоў аб чым думаць! Ня будзе дзяцей, дык ўсё забяруць унукі!

*Падаў Истрычка.*

## Юрыдычныя парады.

**Падп. Базылю Цыбіну.** Справа Б. Казлоўскага настолькі паважная і зложаная, што даваць адказ і параду, што рабіць, праз газэту немагчыма. Наагул — справу выйграеце, але трэба добра яе паставіць, а дзеля гэтага — *канешна патрэбны добры адвакат. Прыедзьце да нас асабіста з дакумэнтамі.* Чым хутчэй—тым для вас-жа лепей.

**Чытачу М. Скр—ку.** Пашпарт для выезда ў Расію на работы, атрымаць ня можна. Асабліва ня можна вам, бо маеце 18 гад., гэта зн. прызыўны.

**Грам. С—пу Дур—ко.** Сёлета памёр бацька. Засталося 7 дз. зямлі з будынкамі, жывым і мёртвым інвэнтаром. Ад першай жонкі засталося 2-ое дзяцей: я і сястра (ужо замужам). Ад другой — 5 сыноў і 4 дачкі. Але жывуць тутака толькі 2 сыны і 2 сястры (другія 2 замужам). Я жыў апошні час не з бацькам. Зямлёй цяперака карыстаюцца толькі дзеці другой маткі (2 браты і 2 сястры), мяне не дапушчаюць. Бацька нікому гаспадаркі не адпісаў. Мачыха жыве. Ці магу і сколькі высудзіць і як?

*Адказ.* Вы маеце права на 1/5 часьць гаспадаркі. Замужнія сёстры, калі атрымалі пасаг—правоў ніякіх ня маюць. Адсутныя—ня лічацца. Суд прызнае правы толькі тых, хто аб іх заявіць. Трэ' зацьвердзіцца ў правох наследзтва. А перш наперш падайце Судзьдзе, разам (з мэтрыкай аб сьмерці бацькі) з просьбай аб вызаве наследнікаў, просьбу аб ахране наследзтвеннай маемасьці. Што імення і як трэба рабіць — зьвярніцеся да адваката або да нас асабіста; будзе усё зроблена.

## АД АДМІНІСТРАЦЫІ.

Усім падпісчыкам, якія прышлюць падпісныя грошы да канца гэтага году, г. е. за тры месяцы, будзе выслана, як бясплатны дадатак да газэты, новая кніжка

**„Дрыгва“**

п'еса ў 6 актах Фр. Аляхновіча. Выданьне Час. Беларускай Рады.

Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.